# Беларускі Усход

**МІЖРАЁННАЯ НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА**

● Заснавана ў 1991 годзе ● № 1 СУБОТА 28 снежня 1991 г.


## СЛОВА ДА ЧЫТАЧА

**ПАВАЖАНЫ ЧЫТАЧ! ДАРАГІ НАШ СЯБРА І ДАРАДЧЫК!** У Дзяржаўным Камітэце Рэспублікі Беларусь па друку зарэгістравана новая незалежная газета «Беларускі Усход», якую заснавалі Хоцімская Свята-Троіцкая праваслаўная царква і саўгас «Трасціно» Хоцімскага раёна.

Газета будзе выходзіць на беларускай і рускай мовах — па жаданню аўтараў змяшчаемых матэрыялаў. У розніцу газета будзе распаўсюджвацца ў Хоцімскім, Касцюковіцкім, Клімавіцкім, Крычаўскім, Чэрыкаўскім і Краснапольскім раёнах (а ў будучым — і ў Мсціслаўскім). Падпісацца ж на «Беларускі Усход» можна ў любым раёне Беларусі.

Грамадска-палітычная, літаратурна-мастацкая і рэлігійна-маральная газета «Беларускі Ўсход» лічыць сваёй галоўнай мэтай выхаванне ў чытачоў духоўнасці, высакароднасці, чэснасці, міласэрнасці, таварыскасці, любові да бліжняга, да Бацькаўшчыны, хрысціянскага і агульначалавечага інтэрнацыяналізму, працалюбства і грамадзянскага сумлення.

Газета будзе асвятляць і аб'ектыўна адлюстроўваць грамадска-палітычнае, эканамічнае і культурнае жыццё Усходняга краю Беларусі, вытворча-гаспадарчую дзейнасць гаспадарак і прадпрыемстваў усіх форм уласнасці, выяўляць народныя таленты, друкаваць іх літаратурна-мастацкія і іншыя творы, прадстаўляць усім жадаючым старонкі газеты для выказвання разнайстайных думак і меркаванняў.

Газета будзе друкаваць разнастайныя парады хатнім гаспадыням, сялянскім гаспадаркам, тым, хто вядзе асабістую падсобную гаспадарку, мае дачу ці садова-агародны ўчастак.

Чытач знойдзе на старонках нашай газеты парады, як зрабіць у хатніх умовах добрае віно з мясцовай садавіны і лясных пладоў і ягад, шмат рэцэптаў прыгатавання вермутаў, пуншу, лікёраў, кактэйляў, настоек, налівак і безалкагольных прыемных напіткаў.

Аматары цікавага змогуць прачытаць перадрукоўкі з рэдкіх і не кожнаму даступных выданняў. Час ад часу будуць змяшчацца гараскопы, розныя прыкметы. Веруючыя праваслаўныя хрысціяне будуць мець магчымасць зараней ведаць якія маюць адбыцца ў хуткім часе рэлігійныя святы і богаслужэнні ў царкве.

Мы спадзяёмся на твае шчырае сяброўства з газетай, дарагі чытач! На твой актыўны ўдзел у падрыхтоўцы кожнага нумару газеты спадзяемся! Без твайго ўдзелу, чытач, мы проста не ўяўляем існаванне газеты і, шчыра кажучы, не зможам зрабіць газету цікавай і чытабельнай!

Чакаем, шаноўны чытач, тваіх пісьмаў, парад, прапаноў, паведамленняў у рэдакцыю. Жадаем кожнаму чытачу «Беларускага Усходу» моцнага здароўя, асабістага шчасця і ўсяго найлепшага ў жыцці!

*З НОВЫМ ГОДАМ, ДАРАГІ ЧЫТАЧ!*

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ «БЕЛАРУСКАГА УСХОДУ».**

## ЗАКАРДОННЫ ГАНДАЛЬ

Кажуць, што ў Польшчу зачасцілі хоцімскія «карабейнікі». Не сакрэт — гандляваць за мяжу з пустымі рукамі не паедзеш. Ды і з рублямі нашымі драўлянымі рабіць там нечага. Трэба везці з сабою хадавыя там дэфіцыты, прадаваць іх на тамашнім базары за валюту і там жа, за яе ж, купляць танныя шмоткі, радыётэхніку і іншыя дэфіцыты для нашага брата. Ну а, прыехаўшы, выгадна тут прадаць сёе-тое, каб апраўдаць панесеныя ў паездцы затраты, ды яшчэ і з барышом застацца.

Здзіўляешся, калі і дзе паспяваюць атаварыцца «карабейнікі» перад візітам за кардон? У нас жа, здаецца, нічагусенькі нават для сябе па візітках не купіш, а ў многіх яшчэ і колішнія талоны на абутак не атавараны. Паліцы ж у крамах пустыя. А мо там недзе ў падсобках што-кольвечы ёсць і той-сёй мае туды «пропуск»? Хто ведае, хто ведае...

Старшыня райвыканкома Кажамяка І.І. не раз і не два папярэджваў аматараў замежнага гандлю, што строга будзе з імі паступаць. А кіраўнікам заяўляў: хто адпусціць свайго падначаленага за мяжу не ў час чарговага адпачынку — справа дойдзе аж да «аргвывадаў».

— Будзем здымаць з пасады! — пагражальна заяўляў ён.

Але хто каго цяпер слухае? Ні начальства, ні закону амаль ніхто не прызнае. Асабліва калі муж пры пасадзе...

Пра гандлёвыя паездкі ў Польшчу пісалася ў рэспубліканскай прэсе і ў абласной газеце. А вось у нашай раённай газеце «Шлях кастрычніка», у якой пракурор з рэдактарам так часта чахвосцяць п'яніц ды алкаголікаў за грахі іншы раз паўгадавой і больш даўнасці, пра «карабейнікаў» ні радочка... Ці не таму, мне здаецца, што, як я чула, побач са шматлікімі, пранырлівымі хацімчанкамі і вясковай элітай і жонка пракурора Луцэіна двойчы зрабіла гандлёвы ваяж у Польшчу. А жонка рэдактара газеты «Шлях кастрычніка» Лапцёўскага Д.Я. ужо нават тройчы «карабейнічала» ў «Рэчы Паспалітай»! І яшчэ пагаворваюць у доўгіх чэргах каля магазінаў хоцімскія кабеты, якім не ўбачыць Польшчы, як уласных вушэй без люстэрка, што нібыта гэтыя «карабейніцы» рыхтуюцца у чарговую гандлёвую місію за кардон.

Дзе ж яны бяруць тавары для «экспарту»? І чаго гэта скрозь пальцы глядзіць на ўсё гэта старшыня раённага Савета народных дэпутатаў Кажамяка І.І.?

Іван Іванавіч, чаго ж тады Вы так грозна папярэджвалі аб недапушчэнні паўторных паездак адных і тых жа ваяжораў за мяжу? Выбачайце за адкравеннасць!

**Нона ЗАКОНІНА**
**г.п.Хоцімск.**



**Галоўны рэдактар газеты В.Даўгалёў і старэйшы селькор многіх газет, вядомы на Магілёўшчыне краязнаўца з Хоцімскага раёна М.Ласоўскі за чаем абмяркоўваюць план падрыхтоўкі матэрыялаў для першага нумару «Беларускага Усходу».**

**Фота С. БАБРОВАЙ.**

## НАВІНЫ ХОЦІМШЧЫНЫ

У вёсцы Ельня на беразе штучнага возера, зробленага калгаснікамі, пасвянцона месца для закладкі ў калгасе «Авангард» новага праваслаўнага храма ў імя слаўных і ўсехвальных першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла.

**І. ШАНДАБЫЛА**

У саўгасе «Трасціно» нядаўна з'явілася новая асфальтаваная стужка — пакрыта, нарэшце, асфальтам палатно дарогі ад цэнтральнай шашы Хоцімск-Клімавічы да саўгаснага машыннага двара. Гэта — вынік клопатаў дэпутата Трасцінскага сельскага і Хоцімскага раённага Саветаў народных дэпутатаў Кавалёва І.І., які пастараўся набыць асфальт за межамі раёна — у Касцюковічах.

**П. КУДРАЎЦАЎ.**

У Хоцімскай СШ № 1 прайшоў «дзень прававых ведаў». Каля дзвюх гадзін працягвалася гутарка Корнева В.В. інспектара па справах непаўналетніх, з вучнямі дзесятых класаў. Віктар Васільевіч адказаў на шматлікія пытанні, загадзя падрыхтаваныя рабятамі. Вучні задаволены гутаркай, у час якой для іх адкрылася многае, раней невядомае ці не ўсвядомленае.

**З. БУБЕЛЬ**

### АДРАДЖЭННЕ КУЛЬТУРЫ

У духу старадаўніх беларускіх традыцый на базе Батаеўскага сельскага Дома культуры праведзены семінар творчага калектыву РДК і клубных работнікаў раёна па тыпу тэатралізаваных прадстаўленняў «калядкі» ў беларускім народным стылі.

Цяпер жа ўсе ўстановы культуры раёна рыхтуюць спецыяльныя навагоднія і калядныя праграмы ўсенароднага святкавання. Ідзе на Хоцімшчыне інтэнсіўнае адраджэнне беларускай культуры ў традыцыях Усходняга Краю Рэспублікі.

### А ЮБІЛЕІ НЕ ЗАБЫВАЮЦЦА

У цэнтральнай раённай бібліятэцы ў Хоцімску прайшло юбілейнае святкаванне з выпадку 55-годдзя з дня адкрыцця раённай бібліятэкі.

На свята да работнікаў хоцімскай цэнтральнай бібліятэчнай сістэмы прыехала загадчыца аб'яднанай абласной бібліятэкі Мельнікава Н.Р. Надзея Раманаўна ўручыла калектыву раённай бібліятэкі грамату абласнога ўпраўлення культуры, каштоўны падарунак і віншавальны адрас ад калектыву абласной бібліятэкі.

На урачыстасцях многім работнікам раённай бібліятэкі ўручаны ўзнагароды — граматы аддзела культуры і дырэкцыі цэнтральнай раённай бібліятэчнай сістэмы. У ліку ўзнагароджаных — ветэраны раённай бібліятэкі, пенсіянеркі Скрыпко П.А., Сямёнава А.І.,Мамліенка М.А. і Канавалава Т.Д. — *адна з першых пасляваенных загадчыц бібліятэкі:* Таццяна Дзянісаўна прыняла бібліятэку яшчэ ў час вайны, пасля выгнання з Хоцімска нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

На гэтым свяце па старай добрай традыцыі было ўрачыста праведзена прысвячэнне ў культработнікі шасці маладых дзяўчат-бібліятэкараў.

У святочнай праграме прыняў удзел вакальна-інструментальны ансамбль Вялікаліпаўскага сельскага Дома культуры.

**Р. КАСТАЛОНАВА**

## ЧАРГА СКАРАЦІЛАСЯ



Як у гады перабудовы, так і ў цяперашні «пераходны перыяд», паўсюдна непамерна растуць чэргі. А вось у Краснаполлі нават у нашы цяжкія дні ёсць прыемная навіна: чарга скарацілася адразу, як бы вы думалі, на які лік? Аж на 70 адразу!

Не, не ў магазіне якімсьці. Там чэргі працягваюць расці, паліцы ўсё больш пусцеюць.

Скарацілася чарга на... атрыманне жылля!

Для 70 сем'яў гарадскога пасёлка размеркаваны кватэры ў новым доме, які хутка будзе здавацца ў эксплуатацыю...

Размеркаванне жылля зроблена ў яшчэ не зусім закончаным доме па некалькіх прычынах. Па-першае — не хапае у будаўнікоў рабочых рук для аддзелкі і аздаблення пакояў, і каб паскорыць гэтыя работы, да іх падключацца асабіста будучыя гаспадары кватэр. Па-другое, якасць і эстэтыка аздаблення пакояў будзе намнога лепшай і адпавядаць густу жыльцоў, бо кожны ж будзе рабіць для сябе, таму падбярэ фарбы, шпалеры і іншыя матэрыялы тыя, што яму спадабаюцца. Па-трэцяе, 70 сем'яў будуць сустракаць Новы год пры ўзнятым настроі: нарэшце дачакаліся!

**В. МУКАЛАВА,**
**г.п. Краснаполле.**

# Сподоби нас посеять любовь

**(проповедь по случаю начала издания газеты)**

**Дорогие братья и сестры, наши читатели!**

**Уважаемые дамы и господа!** Вам отлично известно, что в стране бурно происходит переоценка ценностей и средства массовой информации в своем отношении к церкви решительно, как по команде, поменяли знак с жирного минуса на розовый плюс. Редкий день проходит без священника на экране телевизора или проповеди на газетной странице. Слова «нравственность», «духовность», «милосердие» не сходят с уст обозревателей, политиков, писателей и кооператоров.

Но видно не всякому слову дано творить и созидать: что-то неуловимое ушло, исчезло из нашей жизни. Простые и понятные в старину истины остаются для нас, современных людей, мертвыми буквами на бумаге,не прибавляется пока доброты в обществе и потому добрые новости очень редки, все больше — плохих. «Слово мое и проповедь моя не в убедительных словах человеческой мудрости, но в явлениях духа и силы», — говорит апостол Павел. Этой то силы и не хватает всем нам. Учитывая дефицит этой силы духа, церковь вынуждена выходить из святых стен на сточны града, и, слава Богу, такая возможность представилась, ибо страдающих из-за недостатка духовного окормления — ой как много. Наши публикации и проповеди на страницах газеты будут по мере сил стараться заполнить духовный вакуум наших земляков Востока Белоруссии, но это не значит что мы монополизируем воспитательный процесс чисто религиозным направлением. Мы постараемся строить свои выступления в газете так, чтобы у вас сложилась реальная картина жизни нашего региона, а не печально известное обывательское чувство «глубокого удовлетворения» высоким уровнем собственного невежества. Мы широко будем практиковать поздравления хороших людей. Пусть музыка задушевных слов и добрых пожеланий людям наполнят со страниц нашей газеты ваши ощущения, как пение птиц весенний лес.

Но всякое начинание мертво без участия народа. Только вы, дорогие читатели «Беларускага Усходу», жители шести районов Белой Руси своими письмами украсите нашу новую газету и вдохнете в нее душу. Только в таком единстве мы создадим истинно свободную и независимую народную газету, так нам всем нужную, ибо душа человеческая и есть свободная сила. Она может сделаться или доброю, или злою силою, смотря по тому, какое ты сам дашь ей направление. Пусть же тон нашей газеты, как торжественный перезвон колоколов церкви, непрестанно пробуждает наши омраченные души и не дает им никогда покоя.

**ГОСПОДИ!** Сделай нас орудиями мира твоего. Даруй нам вместо временного — вечное, вместо земного — небесное. Там, где ненависть, сподоби нас посеять любовь, где обида — прощение, где раздор — союз, где сомнение — веру, где тьма — свет, где печаль — радость. Сделай, Господи, так, чтобы мы не столько искали утешения, сколько утешали, не столько желали быть любимыми, сколько возлюбили бы, ибо мы получаем, когда даем, прощая, получаем прощение и, умирая, рождаемся к жизни вечной.

**АМИНЬ!**

**ИЕРОДИАКОН ЛАВРЕНТИЙ**

# Пойдем за Христом

**(Слово на новый год)**

*Господь дал нам прожить еще один год земной жизни, и мы вступаем в следующий новый год, неся далее по житейскому морю свой тяжкий крест — наши проблемы.*

*Начало каждого Нового Года возбуждает много дум и заветных желаний в душе человека. Но что принесёт нам наступающий год? Каким счастьем он нас одарит? Какие ожидания и надежды наши он оправдает? Друзья и знакомые наши, по обычаю, желают нам нового счастья, здоровья, благополучия. Но эти пожелания мы выслушивали и в прошлое предновогодье. И от этих пожеланий не стали мы ни более счастливыми, ни более здоровыми. Случилось, возможно, даже нечто противоположное. Мы испытали новые скорби, лишились некоторых друзей, подверглись болезням, ослабели силами, понесли ущерб. Неужели подобное повторится с нами и в наступающем году?*

*По учению Божественного Откровения только своею добродетельною жизнию мы можем положить доброе основание для своего будущего. Поэтому при наступлении нового года предметом нашего внимания должно быть не легкомысленное гадание о будущем, а исследование прошлого и настоящего. И если наша жизнь в настоящем и прошедшем окажется уклонившеюся от благой и совершенной воли Божией, мы, как христиане, должны отречься от неё навсегда с тем, чтобы преобразоваться обновлением ума своего и начать жизнь иную, лучшую, соответствующую учению Христову. Только при этом условии наступающий год будет для нас поистине Новым годом, и мы вступим в него не только безбоязненно, но и с радостными надеждами.*

*Вот предмет для размышлений накануне Нового Года! Вот о чем нам нужно усердно молиться, и мы рады, что для этого сейчас создаются все условия. В новом году возродится служение в воскресшем Хотимском Свято-Троицком соборе. И многим из Вас будет где остановиться и прислушаться к гласу Спасителя. Будущее еще пока в наших руках, и если мы пойдем за Христом, оставив наше увлечение ложными теориями — над нами и над нашим Отечеством еще взойдет светлое солнце, и мы с обновленной душой, полные радости и надежд, переступим порог поистине Нового и всеми желаемого Года в жизни нашего Отечества и нашего народа!*

**ИЕРОМОНАХ КИРИЛЛ,**
**настоятель Хотимской Свято-Троицкой церкви.**



**У Любові Іванаўны Рудаковай багаты вопыт вучэбна-выхаваўчай работы. Спрактыкаваны педагог, яна ўжо больш за 20 гадоў сее ў душах падрастаючага пакалення разумнае, добрае, светлае.**

**Любоў да педагагічнай працы Л.І.Рудаковай прывіла маці-настаўніца Вера Савельеўна Панасава. Як і маці, Рудакова вучыць самых маленькіх рабят з першага класа. Зараз яна працуе ў Пачапоўскай няпоўнай сярэдняй школе Краснапольскага раёна, карыстаецца павагай і аўтарытэтам сярод настаўнікаў і вучняў. Яе вопыт работы абагульнены метадыстамі райана. Любоў Іванаўна за сумленную працу неаднаразова ўзнагароджвалася граматамі. Як вопытная настаўніца, яна кіруе метадычным аб'яднаннем настаўнікаў пачатковых класаў Краснапольскага раёна.**

**На здымку: Л.І.Рудакова на ўроку.**

**Фота І. ТКАЧОВА.**

# Святы і прыкметы ў студзені

2.01.1992 г. — Дзень святога Ігнація Баганосца.

5.01.1992 г. — Прыкметнае свята святога Фядулы: «Калі Фядула вецер надзьмуў — быць ураджаю».

6.01.1992 г. — Куцця, пярэдадзень Каляд, дня нараджэння Ісуса Хрыста. Калі на куццю шмат зорак на небе — шмат будзе і грыбоў і ягад.

7.01.1992 г. — Каляды. Радня ходзіць да радні ў гэты дзень і частуюць адзін аднаго.

13.01.1992 г. — Васілёў вечар. Вечарам багаты на закусь стол«Свинку да боровка для Васильева вечерка».

17.01.1992 г. — Апошняя святочная варажба. А назаўтра — хрышчэнскія каляды. Народ прыкмячаў: калі пад хрышчэнне снегу падкіне — хлеба прыбудзе.

19.01.1992 г. — Хрышчэнне. Калі жанчыны раніцай па ваду ў тумане ідуць — будзе восенню шмат хлеба. Багаты ўраджай прадказвалі і тады, калі на хрышчэнне снегапад хлоп'ямі і сінія аблокі апоўдні.З 19 студзеня пачынаюцца хрышчэнскія маразы. Калі надвор'е пры гэтым стаіць сонечнае — да засушлівага лета, а пахмурнае і снежнае — да багатага ўраджаю.

21.01.1992 г. — Калі вецер падзьме з поўдня — пасуліць навальнічнае лета.

23.01.1992 г. — Рыгор-імянiннік. Калі на сцірты ўпадзе іней — лета будзе вільготнае і халоднае.

24.01.1992 г. — Свята святога Федасея. Калі цёплы дзень — на раннюю вясну.

25.01.1992 г. —Імянінніца Таццяна.Снег на Таццяну—лета, дажджлівае.

# Як сустракаюць Новы год

Новы год — адно з самых радасных свят. На Русі святкаванне яго пачалося па Указу Пятра I з першага студзеня 1700 года.

У кожнага з нас жыве жаданне жыць у будучым годзе лепш, чым у мінулым, не паўтарыць, дапушчаных памылак, штосьці паправіць. Бо уперадзе ж — цэлы год! І самае галоўнае — добра яго пачаць. Тады ўсё будзе добра і ўсё, *што задумана ў навагоднюю* ноч, здзейсніцца.

Сустрэча Новага года пачынаецца з застолля. Навагодні стол прынята ўпрыгожваць яловымі галінкамі. Для навагодняга застолля пажадана няяркае асвятленне: дастаткова святла ад гірлянды на ёлцы ці бра або таршэра. А вось пакой для танцаў патрабуе поўнага асвятлення.

Вядома, якое ж свята без выпіўкі. Дык што ж, і ў якім парадку падаваць да стала са спіртнога і закусі?

У першую чаргу гэта залежыць ад наяўнасці ў нас таго і другога.

Але прынята белыя сталовыя віны падаваць да лёгкіх мясных і рыбных страў. Чырвоныя менш моцныя — да бараніны цяляціны і птушкі. Чырвоныя моцныя віны — да біфштэксаў, свініны, тлустых супоў, квасолю. Паўсалодкае віно падаецца да цыплят, рыбы з соусам. Лікёрныя віны — да фруктаў.

Звычайна пачынаюць з больш слабых він і заканчваюць моцнымі. Але лепш за ўсё навагодняе застолле пачынаць з шампанскага, перайсці на кактэйлі і заканчваць каньяком.

З халоднай закусі падыдзе сёмга, кета, гарбуша, рыба заліўная, студзень птушыны, яйкі пад маянэзам, рулет, бужаніна, з гарачай — індзюшаціна, шашлык. На дэсерт кофе, торт, фрукты. Абавязкова мець мінеральную ваду і квас сямейны, фірменны.

У заключэнне, далёка запаўнач, трэба падаць традыцыйны чай — напітак, які працвярэзлівае, узнімае бадзёрасць, надае сілы.

**Шчаслівага Новага года!**

**● ГЭТА ЦІКАВА**

# У трыста разоў саладзей цукру

Не кожны чалавек можа ўжываць цукар. Для хворых жа на цукровы дыябет гэты харч — атрута! Але ж салодкае — кожнаму даспадобы. Дык што рабіць? Ужываць сахарын, цыкламант, аспарат? Але ж яны таксама для арганізма шкодныя. Тады мо перайсці на карысныя сарбіт і ксіліт? Але іх недакупішся, да таго ж яны для большасці людзей проста не па кішэні.

Але як мудра і гарманічна ўсё ў прыродзе! Ёсць, аказваецца, та кая расліна — двухлісцёўнік салодкі. У ёй утрымліваецца вельмі карысны прадукт, які пры гэтым у 300 разоў саладзей цукру! Радзіма гэтай расліны — паўднёвая Амерыка. У нас жа яе вырошчваюць пакуль толькі ў Крыму расадным спосабам. Саджанцы рыхтуюць у цяплiцах, якія вясной высаджваюць адкрыта. Тэхналогія вырошчвання складаная, але будзем спадзявацца, што прыйдзе час і двухлісцёўнік салодкі прыжывецца на Беларускім Усходзе.

# Што нам планеты абяцаюць

**(ГАРАСКОП НА СТУДЗЕНЬ)**

**АВЕН. (21.3-20.4)**

Што ў снежні не ўдалося — у студзені пры актыўнасці можна ажыццявіць. Асабліва перспектыўна другая палова месяца. Калі плануецца паездка, яна будзе ўдалай. Перыяд найбольшых поспехаў 20-31. З няўдачай можаце сутыкнуцца 1-6.

**ЦЯЛЕЦ (21.4-21.5)**

У вас шмат шанцаў на поспехі ва ўсіх адносінах. Але будзьце асцярожны 4-10. Не ўпусціце шчаслівы выпадак 10-15. Фінансавае паляпшэнне найбольш верагодна 25-31.

**БЛІЗНЯТЫ (22.5-21.6)**

Вас чакаюць поспехі. Другая палова месяца будзе больш прадукцыйная. Добры перыяд для кахання. Будзьце асцярожны 1-5 і 9, 10 з агнём, гаручымі вадкасцямі і вострымі прадметамі. Не адпраўляйцеся ў турыстычныя паездкі ці паходы. Не ўпусціце спрыяльных шанцаў 15-25.

**РАК (22.6-23.7)**

Вы не здолееце вырашыць нейкую асабістую праблему. Затое гарантаваны поспех у кіраўніцтве падначаленымі і ва ўмацаванні здароўя. Устрымайцеся ад канфліктаў 3-7. Няўдалымі могуць аказацца 6-8, 18 і 19. Выкарыстайце магчымасць атрымаць дапамогу ці патрэбную інфармацыю ад бліжэйшага акружэння.

**ЛЕЎ (24.7-23.8)**

Вас чакае творчы ўздым, рост аўтарытэту. Але слабае месца — здароўе. Будзьце асцярожны 1-7, 9-11, 19-21 і 30-31. Поспехаў можаце дабіцца ў першай палове месяца.

**ДЗЕВА (24.8-23.9)**

Выдатна складуцца сардэчныя і хатнія справы. Устрымайцеся ад едкай крытыкі 10-20, інакш атрымаеце ўдар у адказ 30-31. Пасачыце і за сваім здароўем, прыгледзьце добра за дзецьмі 1-7 і 19-31.

**ВАГІ (24.9-23.10)**

Расходы могуць перавысіць даходы. Магчымы складанасці ва ўзаемаадносінах з дзецьмі 20-25, 30-31.

Найбольш спрыяльныя дні ва ўсіх адносінах 10-15.

**СКАРПІЕН (24.10-22.10)**

Тры першыя тыдні пройдуць пад знакам поспехаў. Прадстаіць шмат паездак. Нядрэнныя заробкі ўмацуюць вашу эканоміку. 3-6, 15-20 і 30-31 павышаная небяспека траўматызму. Удачы вас чакаюць 8-12 і 30-31, але памятайце аб небяспецы.

(Заканчэнне на 4 стар.)



Я вышел из дому, кололо
лицо морозцем молодым.
Еще вчера все был голо,
а нынче стало всё другим:
запорошило лес, как в сказке,
дорогу за ночь замело.
Скрыв осени густые краски
зима пришла — белым бело!

Как хорошо, что столько снега
дал Бог, озимые храня.
Поставим под навес телегу
И в сани запряжем коня.
В санях помчимся лихо к стогу,
корове привезем сенца.
Потом по рюмочке, ей-Богу,
мы выпьем красного винца!
Того, что в погребе хранится,
домашнего. Ну что ж, налей!
но выпьем так, чтоб не напиться,
а жить активней, веселей.

**В. ВЁЛОГЛОД**

**Фота Л. СМАЛЯКОВАЙ.**

# КЛУБ ЗНАЁМСТВАЎ «БЕЛАРУСКАГА ЎСХОДУ»

Паважаныя спадары! Сёння мы адкрываем клуб знаёмстваў, праз які Вы можаце знайсці сабе сябра ці сяброўку, аднадумца, або нават звязацца вузамі Гіменея.

Зусім за невялікую плату Вы можаце даць аб'яву пра тое, каго жадаеце знайсці. Дастаткова пералічыць 15 рублёў на разліковы рахунак рэдакцыі газеты «Беларускі Усход» № 000363002 ў Хоцімскім акцыянерным камерцыйным аграпрамбанку (код банка 153801486) і даслаць нам тэкст аб'явы з вашым адрасам.

Ананімнасць вашу гарантуем. Мы будзем вашу аб'яву друкаваць пад абаненцкім нумарам. Таму ж, хто захоча атрымаць ваш адрас, мы паведамім яго за яшчэ меншую плату — сем рублёў.

**РЭДКАЛЕГІЯ**

## *ПРАПАНУЕМ АБ'ЯВЫ ПЕРШЫХ АБАНЕНТАЎ*

**АБАНЕНТ № 1**

Мне 57 год, прыемная на знешнасць, яшчэ даволі рухавая і гляджу на мужчын не без хвалявання. Жыву ў горадзе, але згодна і на пераезд у вёску, калі пакліча добры чалавек. Мой рост 164 сантыметры, вага 65 кілаграмаў, шатэнка, губы не размалёўваю, яны ў мяне без таго прыгожыя. Атрымліваю добрую пенсію. З мужчынамі старэй 58 год знаёміцца не збіраюся. Адкажу на пісьмо з фотакарткай.

**АБАНЕНТ № 2**

Жадаю пазнаёміцца з разумным і прыгожым хлопцам, можна з двума і нават з трыма, з якімі б не сумна было праводзіць час. Але не для кахання, а па ідэйных матывах. Мне 22 гады, я сябра народнага фронту.



**● ТВОРЧАСЦЬ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ**

## КОРОБЕЙНИК

**Эх, полна, полна коробушка,**
**Есть и ситец, и парча...**
**Н. А. НЕКРАСОВ.**

Эх, пусты, пусты прилавочки,
Нет товаров, вот беда.
Призадумались красавицы:
«Коробейничка б сюда».
Вдруг по улице ухоженной
Шёл ускоренной ходой
С коробком тяжелым кожаным,
Коробейник молодой
Сел он просто на завалинке,
Разложил свои лотки.
Есть большим здесь,
есть и маленьким,
И колготки, и платки,
Назапасились обновками,
Весь товар шел нарасхват,
И наполнил сторублёвками
Коробейник «дипломат».
А одна лишь черноокая
Все моргала без конца,
На свиданье в рожь высокую
Пригласила молодца.
Одолел соблазн красавицы,
Блеск лучистого вина,
После упоенной здравицы
Усыпила молодца.
Знает только рожь высокая,
С чем ушел тот молодец,
Где ж теперь ты, черноокая,
Отзовись же, наконец...

**С. ХРАМЯНКОЎ,**
**в. Чарняўка,**
**Хоцімскі раён.**



## АНЕКДОТЫ

Немец, француз і рускі заспрачаліся, у чыей краіне выканаўцы самыя дакладныя. Рашылі пераканацца. Паехалі ў Берлін. Селі ў рэстаране за столік.

— Айн момэнт — адчаканіў афіцыянт, узяўшы заказ. Праходзіць секунда — афіцыянта няма. Праходзіць другая — няма. І толькі ў канцы трэцяй секунды ён абслужыў гэту тройку.

У Парыжы афіцыянт з прыемнай усмешкай сказаў пяшчотна:
— Сію хвіліначку.

Праходзіць сорак секунд, хвіліна, другая... няма афіцыянта. І толькі праз две з паловай хвіліны ён абслужыў спрачальнікаў.

У Маскве афіцыянт як бы паміж іншым паабяцаў:
— Сей час.

Сорак хвілін прайшло, пяцьдзесят — афіцыянта і след прастыў. Нервуюцца немец ды француз, кпяць з рускага, а той і ў вус не дзьме. Пакурвае цыгарэту, дым калечкамі пушчае. Ужо і 55 хвілін прайшло... на 57-й хвіліне тройка была абслужана і афіцыянт падаў рахунак на разлік.

— Пераканаліся? — Усміхнуўся рускі. — Вось якая дакладнасць. Нават на тры хвіліны раней абяцанага абслужыў. У Расіі ўсё датэрмінова робіцца...

* * *

Англічанін, амерыканец і рускі заспрачаліся, чыя гума мацней.

— Наша, — кажа англічанін. — Вось разганяем вялікагрузны самазвал да 150 км у гадзіну, тармозім намертва, аўтамабіль юзам сунецца 20 метраў па дарозе, аж бетонка дыміць, а на пратэктарах шын — аніякай мецінкі.

— Гэта што. — Кажа амерыканец. Вось у нас гума! Бярэш мятровы шнур з гумы. Прывязваеш адзін канец за круг на сотым паверсе небаскроба. Другі канец наматваеш на руку. Прыгаеш з вакна. Гума расцягваецца ў валасінку таўшчынёй, ты павольна, як на парашуце спускаешся на тратуар і гумавы шнурок не рвецца.

— Во здзівіў. — Гаворыць рускі. — Наша гума, дык гума. Навошта табе соты паверх. Адзяваеш на сёмым паверсе гумавыя галёшы, прыгаеш на тратуар з вакна. Ад самога толькі мокрае месца, а галёшы цэлы.

* * *

Маладая немка зацяжарыла. А паколькі была незамужняя, вырашыла пазбавіцца ад цяжарнасці. Сяброўка параіла ёй есці пабольш марожанага. Ужывае немка марожанае тыдзень, ужывае другі. Пайшла праверыцца да рэнтгенолага. Стаў той прасвечваць жывот дзяўчыны і бачыць: сядзіць малыш на ледзяной горцы ў жываце немкі, махае кулаком:

— Брэшаце, гады фашыстоўскія, не замарозіце, я — сібірак!

# Кое-что о коньяке

Коньяк — крепкий, ароматичный виноградный напиток, вырабатываемый из виноградного спирта (крепостью 60-70 градусов) путём перегонки молодых сухих вин из особых сортов винограда.

Полученный спирт выдерживают в течение нескольких лет в дубовых бочках. В результате извлечения спиртом некоторых дубильных и ароматических веществ из дубовой клёпки и происшедших в спирте других химических изменений он приобретает уже новые свойства и становится коньячным спиртом.

В коньячный спирт, разбавленный дистиллированной водой до 40-57 градусов (в зависимости от марки коньяка) добавляют немного сахара и снова выдерживают в дубовых бочках не менее трех месяцев. Только после этого коньяк бывает готов и его из бочек разливают в бутылки и отправляют по торговым базам и в магазины.

Число звездочек на этикетках коньячных бутылок означает количество лет выдержки спирта, из которого изготовлен коньяк.

Коньяки более чем пятилетней выдержки называются марочными, им присваивают специальные названия (марку), и звездочек на этикетке в этом случае уже не ставят.

Из старых, выдержанных, первоклассных коньяков следует отметить коньяки марок:

КВ — коньяк выдержанный (6-7 лет), крепостью 42 градуса.

КВВК — коньяк высшего качества, выдержанный (8-10 лет), крепостью 45 градусов.

КС — коньяк старый, 10-летней выдержки, крепостью 43 градуса.

ОС — коньяк очень старый, выдержки больше 10 лет.

Из марочных коньяков длительной выдержки особо выделяются «Юбилейный», «Армения», «Двин», ОС, КС, «Енисели», и «Юбилейный XX». Самые крепкие коньяки «Ереван» — 57 градусов и «Двин» — 50 градусов.

Коньяк пьют перед едой для возбуждения аппетита. Хорошая закуска к нему — кусочек балыка с лимоном или ломтик лимона с сахаром. Пьют коньяк из маленьких рюмок. Хорошо, если эти рюмки из тонкого стекла. Через такое стекло виден золотисто-янтарный цвет коньяка. После обеда или ужина коньяк подается к черному кофе, к фруктам.

Коньяк служит для лечебных целей как тонизирующее средство. О целесообразной дозировке коньяка для больных и выздоравливающих следует посоветоваться с врачом.

# ЧУТОК О ШАМПАНСКОМ

Наше шампанское находится в первом ряду мировых шампанских вин. Это пенистое, игристое, кристально-прозрачное виноградное вино превосходного вкуса и аромата. Шампанское бывает сладкое (содержит 10% сахара), полусладкое (7%), полусухое (5%) и сухое (до 1% *сахара*).

Шампанское лёгкий напиток. Крепость белого шампанского не превышает 10-12,5, а цимлянского — 13,5 градуса.

Лучше всего пить шампанское, когда температура его не выше 6-7 градусов, для чего его рекомендуется охладить перед подачей к столу.

Шампанское можно подавать и к лёгкой закуске, такой, как сыр, сухое пресное печенье, и к сладостям, орехам, фруктам.

# Што нам планеты абяцаюць

(Заканчэнне. Пач. на 3 стар.).

**СТРАЛЕЦ (23.11-21.12)**

Умацуецца пастулова фінансавае становішча, калі 29-31 не зробіце непрадуманых расходаў. 4-7 атрымаеце матэрыяльную выгаду, калі паслухаецеся парады пажылога чалавека. Другая палова месяца будзе лепш першай.

**КАЗЯРОГ (22.12-20.1)**

Вялікія магчымасці паказаць, на што вы здольны. Але хуткая змена дэкарацый у жыцці, няўстойлівасць сітуацый, павышаная небяспека. Будзьце пільнымі, не рызыкуйце, асабліва 1-7, 18-25 і 30-31. Ва ўсіх справах найбольш прадуктыўныя дні 19-25.

**ВАДАЛЕЙ (21.1-19.2)**

Вакол вас патаемна вядуцца інтрыгі. Займіце пазіцыю назірання. Пазбягайце спіртнога. Магчымы расчараванні ў каханні і дружбе... Але не адчайвайцеся. Нечаканыя павароты ў жыцці магчымы 3-6, 19-22 і 30-31. Магчымы дарожныя інцыдэнты 8-11.

**РЫБЫ (21.2-20.3)**

Месяц прафесійных поспехаў, актыўныя зносіны з раднёй і сябрамі. Для вас небяспечныя знаёмствы ў дарозе. Спрыяльны ўвесь месяц, асабліва 15-25. Дні 2-6 і 29-31 могуць быць эмацыянальна напружанымі... Непрыемнасці пачнуцца з 21 — да сур'ёзнай пагрозы 30-31.


**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**Адрас рэдакцыі: Для пісьмаў: 213670, Хоцімскі раён, п/а Трасціно, в. Маркаўка, д. 35. Тэлефоны: галоўнага рэдактара — 22-9-89, карэспандэнцкага пункта ў Касцюковічах: 21-6-94; 21-9 -50; 21-4-01 ў Клімавічах: 2-12-67; 2-11-60; у Краснаполлі: 21-9-92, у Чэрыкаве: 2-24-98; 2-11-63; у Хоцімску: 22-3-80.**

**Заснавальнікі: Хоцімская Свята-Троіцкая царква і саўгас «Трасціно» Хоцімскага раёна.**

**«Белорусский Восток». На белорусском и русском языках. Независимая общественно-политическая, литературно-художественная и религиозно-моральная газета. Выходит по субботам.**

**Пункт гледжання аўтараў друкуемых матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі.**

**Аўтары друкуемых матэрыялаў нясуць адказнасць за дакладнасць і даставернасць прыводзімых фактаў, цытат, статыстычных і іншых даных, асабістых імён і прозвішчаў, геаграфічных і іншых назваў і ўсякай прыводзімай інфармацыі, у тым ліку за наяўнасць у друкуемых матэрыялах даных, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі.**

**Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца аўтарам.**

**Газета набрана и отпечатана в Могилевской областной типографии им. Я.М.Свердлова, ул. Первомайская, 70.** **Тыраж 2000 экз. Цана 50 кап. Аб'ём 1 друк. ліст. Зак. № 1.**